© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

наша СВАБОДА

№33 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

20 ЧЭРВЕНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стар.7

**Заўсёдныя папялушкі мінфіна**

# Рокировочки местного значения

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**Произведенные А. Лукашенко на прошедшей неделе кадровые перестановки не стали неожиданностью. Все персоны известны своим служением любой власти.**



● **Владимир Заметалин** был перемещен с должности вице-премьера. Он стал первым заместителем главы президентской администрации



● **Владимир Русакевич** освободил пост первого заместителя главы президентской администрации. Его ждет дипломатическое поприще



● **Дмитрий Булахов** стал первым заместителем председателя исполнительного комитета - исполнительного секретаря СНГ

Возвращение Владимира Заметалина в президентскую администрацию, по мнению наблюдателей, знаменует начало серьезной подготовки режима к проведению с электоратом разного рода кампаний, всенародных сходов, которые должны сплотить их участников вокруг любимого руководителя. Понятно, что для этого необходимо усилить идеологическую функцию администрации. Судя по всему, ни первому, ни просто заместителю ее главы Владимиру Русакевичу и Ивану Пашкевичу так и не удалось эту функцию выполнить в полной мере. Поэтому одного послали в дипломаты, а другого, видимо, бросят на второй телеканал, который существует в проекте. Когда-то И. Пашкевич, придя в администрацию на смену В. Заметалину, сказал, что тот умный, а он везучий. Похоже, на этот раз Иван Иванович не повезло. Как и переговорщику с лояльной общественностью В. Русакевичу.

Интересно, что первоначально В.Русакевич фигурировал среди кандидатов в первые заместители председателя исполнительного комитета СНГ. Тогда в его карьерном списке это стала бы четвертая по счету должность заместителя. Но в последний момент что-то с ним не заладилось в верхах, и его решили послать послом куда-то подальше. Кстати, еще недавно муссировались слухи и о посылке В. Заметалина послом в Багдад, куда он неоднократно наезжал в качестве личного представителя А. Лукашенко. Но, как оказалось, оказался нужней в Минске.

Не секрет, что фигуру В. Заметалина относят к сторонникам жесткой, бескомпромиссной политики в отношении внутренних и внешних оппонентов режима. Есть основания предполагать, что игры в демократию с ОБСЕ, другими международными структурами у Минска завершаются. Встают в повестку дня задачи более важные — по сплочению народа перед разного рода мероприятиями. Одни называют их выборами, другие — референдумами. Время покажет. Правда, до сих пор считалось, что вновь пришедший в администрацию В.Заметалин с нынешним ее главой Михаилом Мясниковичем по работе несовместим. И это стало причиной в свое время их рокировки с администрации в правительство. Нынешнюю совместную работу двух активных участников выборов в 1994 году президента Беларуси называют временной. Примечательно, что на так называемых альтернативных президентских выборах в мае 1999-го глава администрации не был замечен в публичных осуждениях кандидата Михаила Чигиря. Говорят, что М.Мясникович все же может скоро оказаться в послах. Кстати, как уверяют информированные источники, активность посла РБ в Пекине Вячеслава Кузнецова, ратовавшего за то, чтобы его сменил М.Мясникович, стоила послу назначением с понижением своего статуса. Он оказался всего лишь постпредом РБ в органах СНГ. Глава государства не мог допустить сработки старой номенклатурной связки. И бывший вице-спикер Верховного совета сменил на посту недавно назначенного юриста Дмитрия Булахова, который переместился на место Ивана Коротчени — первого заместителя председателя исполнительного комитета СНГ. А известному И.Коротчене, некогда коллеге А. Лукашенко по депутатству, придется расстаться с жалованием в 1.500 долларов США и, видимо, встретить очередной саммит СНГ на своей даче в Барвихе. ▶

*Окончание на стр.2*

# Чыгір знайшоў працу



**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Міхаіл Чыгір уладкаваўся на працу: цяпер ён дарадца дырэктара навукова-прамысловага прадпрыемства «АДЛ». М.Чыгір кажа, што стаміўся па сапраўднай працы, якой не займаўся паўтара года. Нагадаем, да ўступлення ў кампанію па выбарах прэзідэнта, наладжаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання вясной 1999 г., экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір працаваў у Маскве, у прадстаўніцтве буйнога нямецкага канцэрна *GEA*. Але з працай на немцаў Чыгіру давялося развітацца пасля арышту, 8 месяцаў ізалятара і суда, які прызнаў яго вінаватым у службовым злоўжыванні (як лічаць праваабаронцы – гэты прысуд палітычна матываваны). Цяпер М.Чыгір будзе працаваць на беларускі бізнес. Ён кажа, што на тое ёсць тры асноўныя прычыны. Першая — «Мужчыну маіх гадоў нельга не працаваць», — лічыць экс-прэм'ер. Другая — «На 6 долараў пенсіі, якія плаціць мне дзяржава як былому прэм'еру, пражыць немагчыма». І трэцяя – М.Чыгір хоча на ўласнай скуры зведаць долю беларускага бізнесмена. Ужо першыя дні на новым месцы пераканалі яго, што становішча тут вельмі цяжкае. «Здаецца, цяпер працаваць значна больш складана, чым у 1996 годзе, калі я быў прэм'ерам», – заўважае Міхаіл Чыгір. ■

# «Дружеское» пожелание

На прошедшем в Вильнюсе 12-14 июня **Конгрессе осуждения преступлений коммунизма** был замечен следующий парадокс. Среди флагов, которые сопровождали мероприятия Конгресса и представляли стран - участниц, был, конечно, и белорусский. Но, по иронии судьбы, именно тот флаг (с модификациями 1995 года), под которым и совершались преступления коммунизма на территории Беларуси. Просто организаторы достали из склада набор стандартных официальных флагов и не стали разбираться в тонкостях белорусской ситуации. Однако, несмотря на абсурдность сочетания коммунистической символики с антикоммунистическим пафосом мероприятия, белорусская делегация (в которую, среди прочих, входили Семен Шарецкий и Зенон Позьняк) все дни невозмутимо принимала участие в работе Конгресса. И только в последний день, по словам секретаря оргкомитета, члены белорусской делегации обратились к хозяевам с *дружеским пожеланием* в том смысле, что организаторам следовало бы выбрать другой флаг. Никакой более бурной реакции от белорусской делегации не поступало. ■

**Наша СВАБОДА – гэта Ваша СВАБОДА!**

**Паважаныя чытачы!**

**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску на II паўгоддзе 2000 г.**

**Падрабязнасці пра ўмовы падпіскі на *стар. 5***

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Калі вярстаўся гэты нумар, у мінскім гарадскім судзе абвяшчалі прыгавор старшыні БСДП Мікалаю Станкевічу і вядомаму праваабаронцу Валерыю Шчукіну за ўдзел у «Маршы Свабоды» ў кастрычніку мінулага года.** Суд прыгаварыў Мікалая Статкевіча да 2 гадоў зняволення з адтэрміноўкай на два гады, Валерыя Шчукіна да 1 года зняволення з адтэрміноўкай на год. ***Падрабязнасці аб гэтым судовым паседжанні – у наступным нумары.***

■ **Беларускіх універсітэтаў стане больш.** Міністэрства адукацыі Беларусі, па выніках працы адмысловай камісіі, прыняло рашэнне пра пераўтварэнне Брэсцкага політэхнічнага інстытута ва універсітэт. З 1 ліпеня ВНУ атрымае новую назву – Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны універсітэт. Пры гэтым да 14 спецыяльнасцяў, па якіх рыхтуюць спецыялістаў, дадасца яшчэ адна — «інжынер па рамонце і эксплуатацыі транспартных сродкаў».

■ **Жахлівы выпадак адбыўся ў брытанскім порце Дувр.** У кантэйнеры галандскага грузавіка, які прыбыў у Дувр на пароме, паліцыя знайшла 58 трупаў. Кіроўца грузавіка быў арыштаваны. Улады мяркуюць, што гэтыя людзі збіраліся папрасіць у Вялікабрытаніі палітычнага прытулку. Паліцыя таксама знайшла ў грузавіку двух жывых людзей. Яны былі накіраваныя ў мясцовы шпіталь.

■ **Хрысціянска-дэмакратычная партыя Польшчы абвясціла пра сваё рашэнне вылучыць свайго прадстаўніка Леха Валенсу кандыдатам на прэзідэнцкія выбары.** Тым часам, папулярнасць Л.Валенсы падае – яго падтрымлівае ўсяго 4% насельніцтва. У сваёй перадвыбарчай праграме Лех Валенса прапануе завяршыць посткамуністычную трансфармацыю Польшчы.

■ **Джордж Сорас сыходзіць у адстаўку. Ён збіраецца перадаць кіраўніцтва карпарацыяй *Soros Asset Management* сыну Роберту.** У інтэрв'ю *BBC* сусветна вядомы мільярдэр заявіў, што згубіў сваю «магічную інтуіцыю», якая ў свой час зрабіла яго адным з найбольш паспяховых інвестараў свету. Рашэнне Дж.Сораса не стала сенсацыяй для сусветных фінансістаў – стан яго ных фондаў цяпер ацэньваецца як крытычны. Іхнія агульныя актывы скараціліся на 20%.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 980

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





# Дышла ў вантробы

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Не ведаю як вы, а я адчуваю, што наперадзе ў беларусаў велізарнейшае свята. Свята Святаў. Іншая справа, што не ўсе да яго дажывуць, бо: беззаконне, турмы, дубінкі, спецслужбы, хлусня, жлобства, галадуха, здрада, тэрор, рынкавы сацыялізм, няшчымніца, непісьменнасць, карупцыя, неафашысты, сухоты, самота, злачыннасць, радыяцыя, экалогія, нянавісць, бесчалавечнасць, бюракратыя... Не кожная вышэйшая жывёла, не кажучы ўжо пра чалавека, можа вытрываць такі рэжым, які трывае сумленны беларускі грамадзянін.

Але ж Свята будзе абавязкова. Уявіце сабе той сонечны дзень, калі раптам станучь непатрэбнымі адразу ўсе дэкрэты ППРБ. Усё знянацку павернецца да лепшага. Стане непатрэбным і сам ПП. І ягоныя памочнікі. І ягоныя... Па-праўдзе кажучы, яны большасці з нас непатрэбныя ўжо і зараз, але пакуль што гэта дужа цяжка ім давесці. Прыкладам, як сядзіць чалавек у брудзе па самую макаўку, а ты яго ўшчуваеш за мурзатыя вушы. То хіба ён пачуе?

Між тым гэтае Свята то набліжаецца, то аддаляецца. Здаецца, працягні руку і схапі за хвост птушку шчасця заўтрашняга дня! Вось яны – залатыя абшары і лазурковыя нябёсы! Вось яна – перамога са слязамі на вачах! Дрыжыць, трасецца, калоціцца антынародны рэжым, кашляюць ягоныя маторы, гараць трубы, западаюць педалі, кліняць ланцугі і перадачы. Не жылец ён. Хапаецца за апошняе, за фантом, за паветра, за абяцанкі.

І тут самае галоўнае для кожнага з нас – вытрымка. Бо набліжаецца рашучы момант усяго супрацьстаяння – выбары. Абавязкова трэба зрабіць іх сумленнымі і дэмакратычнымі. Або так, або ніяк! Нельга паддавацца на правакацыі ды абяцанкі. Трэба сачыць за рэжымам з асаблівай пільнасцю: пачынаюцца ягоныя сутаргі. Уціск, чуткі, падман, пагрозы, перасьлед. Ужо запусцілі чутку, што адміністрацыя ППРБ склала спісы з сарака палітыкаў, каб прапанаваць ім нейкія важныя пасады. Быццам, Статкевіч пасварыўся з Вячоркам з-за амерыканскіх грошай. А Кангрэс дэмакратычных сілаў, нібыта, робіцца для таго, каб перашкодзіць правядзенню Усебеларускага з'езда. Вось засакаталі дзяржаўныя СМІ, што ў Выбарчы кодэкс унесены нейкія істотныя змены. Вось ад апазіцыі адбягаюць убок часовыя саюзнікі...

Многа яшчэ будзе. Не зважай на мітусню, сачы за галоўным. Набліжай Свята! Дышла – у вантробы дыктатуры!

# Рокировочки местного значения

*Окончание. Начало на стр.1*

Обещают еще одну кадровую рокировку. Председатель телерадиокомпании Григорий Кисель может оказаться послом в Бухаресте, а прижившийся там Анатолий Бутевич, некогда работавший министром информации, якобы заменит Г. Киселя. Не исключено, что после реконструкции президентской администрации, которую обещает М.Мясникович, новый шеф местного телевидения попадет под жесткое подчинение первому заместителю главы администрации. Впрочем, как и некоторые другие государственные СМИ, которые любят себя называть солидными. Что касается освободившегося после В. Заметалина кресла вице-премьера по социальным и культурным вопросам, то в его прочат также старых знакомых. Среди кандидатур, например, называют ректора Политехнической академии Михаила Демчука. Можно вспомнить, что в правительстве Кебича-Мясниковича он работал вице-премьером по упомянутым вопросам.

Наблюдатели уже неоднократно отмечали то, что, несмотря на изоляцию Беларуси в мировом сообществе, высшие чиновники в массовом порядке заявляют о своей готовности к дипломатической работе за рубежом. Особенно эта тенденция стала нарастать где-то с середины 1999 года. Среди причин особенно часто называется растущая социально-экономическая напряженность в стране. И, как полагают многие, фактический провал стратегии на создание единого с Россией государства.

Проведенные и планируемые рокировки выражают надежду и расчет с помощью прежних кадров, укрепивших власть А.Лукашенко, повторить успех. Однако, проявление беглецких тенденций среди власть имущих показывает значительный скепсис в отношении повторения успеха. И тогда, понимаешь, может получится загогулина. ■

# Зімоўскі – апраўданы

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Як і меркавала НАША СВАБОДА два нумары таму, суддзя Першамайскага суда г.Мінска Уладзімір Кобышаў вынес апраўдальны прысуд для вядучага аналітычнай праграмы «Рэзананс» Аляксандра Зімоўскага. Ён адмовіў у пададзеным грамадзянкай Верай Церлюкевіч іску «аб абароне гонару і годнасці», згодна з якім Зімоўскі павінен быў сплаціць пенсіянерцы 3 мільёны рублёў.

Сутнасць прэтэнзіі Церлюкевіч была ў тым, што яе абразілі словы Зімоўскага, сказаныя ў адносінах да ўдзельнікаў апазіцыйнага мерапрыемства «Марш Свабоды» 17 кастрычніка 1999 года. Тады Зімоўскі ў «жывым» эфіры назваў дэманстрантаў «адмарозкамі», што Вера Церлюкевіч успрыняла на свой конт. Першае пасяджэнне пад старшынствам суддзі Ясновіча прайшло яшчэ ў лютым. На ім словы, сказаныя Зімоўскім, былі адпраўленыя на экспертызу ў Інстытут этнаграфіі і фальклору НАН. Але там філалагічнае даследаванне праводзіць адмовіліся, спасылаючыся на тое, што гэта не ўваходзіць у іхны профіль. Тады за правядзенне экспертызы ўзяўся камітэт па журналісцкай этыцы Беларускага саюза журналістаў, які вынес рашэнне, згодна з якім сказаныя тэлевядучым словы не адносіліся напрамую да Церлюкевіч, а мелі на ўвазе «радыкальна настроеную частку натоўпу, што шпурляла ў дэманстрантаў камянямі». Вось іх Зімоўскі абразіў, і калі б нехта з іх падаў іск у суд, то тады вядучаму «Рэзананса» давялося б сплаціць пэўную суму. Але хто ж з іх падасць іск у суд, калі прызнанне ў кіданні камянёў адразу прывядзе на лаву падсудных па крымінальным артыкуле.

Суд пад старшынствам суддзі У.Кабышава, як і чакалася, не адрэагаваў на просьбы ісціцы адправіць выказванне Зімоўскага на дадатковую экспертызу і на падставе вынесенага БСЖ заключэння адхіліў іск Веры Церлюкевіч. ■

# Пакаранне за веды тарашкевіцы

**Прэс-служба «МФ»**

Студэнт V курса геаграфічнага факультэта БДУ, лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец, які ў гэтым годзе мусіў скончыць навучанне ў спецыяльнасці «геалогія», 15 чэрвеня не быў допушчаны да абароны сваёй дыпломнай працы «Бурштын Беларусі». Дэкан факультэта, Іван Пірожнік, не дазволіў абараняць дыплом, напісаны беларускай мовай у тарашкевіцкім правапісе, і наклаў на тытульным аркушы рэзалюцыю (перадаем на мове арыгінала): «В таком виде работа не может быть допущена к защите в государственной экзаменационной комиссии».


Фота IREX/ProMedia

Звяртае на сябе ўвагу, што ўсе спецыялісты-геолагі, якія ўваходзілі ў камісію (у тым ліку і знакаміты акадэмік Р.Гарэцкі), дыплом да абароны прынялі – але ў апошні момант працай студэнта Севярынца зацікавіўся географ І.Пірожнік.

Вядомыя прэцэдэнты, калі студэнты і аспіранты розных беларускіх ВНУ выконвалі і абаранялі курсавыя, дыпломныя і навуковыя працы менавіта на тарашкевіцы. Больш за тое, яшчэ свежая гісторыя з газетай «Наша Ніва», якая выйграла суд за тарашкевіцу ў Дзяржкамдруку. Але, здаецца, на геаграфічным факультэце БДУ дзяржаўныя чыноўнікі вырашылі адыграцца.

У гэты момант Паўлу Севярынцу, які мае амаль усе выдатныя экзаменацыйныя адзнакі за 5 гадоў навучання, пагражае адлічэнне з універсітэта. ■

# Акцёр знік па дарозе дамоў

**Кірэй МАНУЙЛАЎ**

На мінулым тыдні ў памяшканні Тэатра-студыі кінаакцёра прайшоў брыфінг, прысвечаны лёсу без вестак прапаўшага год таму артыста гэтага тэатра Андрэя Бубашкіна.

Летась у траўні Бубашкін адправіўся з монаспектаклем «Сон смешнага чалавека» паводле Ф.Дастаеўскага на гастролі ў Нямеччыну. Там ён набыў на ганарар аўтамабіль «Хонда», на якім і збіраўся вяртацца на радзіму. 30 траўня з немецкага Мюнстэра акцёр тэлефанаваў дадому, каб сказаць, што тым днём выязджае. Гэты званок стаў апошнім кантактам з Андрэем Бубашкіным – на Беларусі яго не дачакаліся.

Цесць акцёра, мастак Уладзімір Уродніч, рытарычна пытаецца «дзе голас дзяржавы?» у сітуацыі, калі знікаюць ейныя грамадзяне, прычым небезвядомыя. МУС і КДБ за год следства ў гэтай справе не прасунуліся абсалютна ні ў чым. Самае галоўнае, не ўдаецца ніяк след наладзіць супрацоўніцтва з праваахоўнымі органамі Польшчы і Нямеччыны, на тэрыторыі якойсьці з гэтых краінаў нешта і здарылася з Андрэем Бубашкіным. Верагодней за ўсё ў Польшчы, бо рэхт супраць аўтамабілістаў там буяе надзвычайна: менавіта такой ахвярай мог стаць беларускі акцёр.

Прысутныя на брыфінгу адстаўны генерал міліцыі, член так званага Савета Рэспублікі Мікалай Чаргінец, які ўзяўся курыраваць гэтую справу, наракаў, што за мяжой на ўсе звароты беларускага боку рэагуюць нейкімі «адпіскамі». Але разам з тым прызнаў, што беларускія праваахоўнікі гэтаксама належнага не робяць. Так, напрыклад, чамусьці дагэтуль не высветлена, ці перасякала «Хонда» беларускую мяжу і ці зафіксаваная яна падчас працэдуры «растаможкі» ў камп'ютарах на беларускай і расійскай мытнях. Уяўныя злачынцы пагналі б машыну менавіта сюды. МУС таксама не мае і геннага коду акцёра. Няма пакуль у следства і аніводнага сведкі сярод шматлікіх «аўтамабільных чаўнакоў» з Беларусі да Расіі, якія маглі стаць выпадковымі відавочцамі таго, што здарылася з А.Бубашкіным. ■

# Зброю – на стол!

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

З 19 чэрвеня і на працягу наступных 30 дзён усе аддзелы міліцыі Брэсцкай вобласці пачынаюць своеасаблівую зачыстку жылля ўладальнікаў зарэгістраванай зброі. Гаспадару паляўнічага ружжа, газавага ці імяннога пісталета давядзецца засведчыць, дзе ён захоўвае тое, што страляе, каго асцерагаецца, колькі мае патронаў.

Татальны кантроль павінен напалохаць і грамадзянаў, хто мае незарэгістраваную зброю. Таму адначасова міліцэйскія начальнікі абвясцілі пра кароткачасовую «амністыю» для тых, хто добраахвотна здасць зброю і боепрыпасы.

Дарэчы, з 1999 года толькі на Брэстчыне канфіскавана 4.408 адзінак зброі. ■

# На Ашмяншчыне разводаў не любяць

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

Медыкі звязваюць малую распаўсюджанасць на Гродзеншчыне абортаў толькі з моцным уплывам касцёла. Але, як ні дзіўна, рэлігійная мараль не ратуе ад разводаў. У Гродзенскай вобласці амаль 60 са 100 новых шлюбаў распадаюцца. А ў самых заходніх раёнах – Гродзенскім і Бераставіцкім гэтая лічба дасягае 76 і амаль 80 разводаў адпаведна. Найменш разводзяцца ў Ашмянскім раёне, што на мяжы з Літвой. Толькі 30 сужэнскіх пар са 100. ■

# Палова дарог Беларусі патрабуе рамонту

**Аляксей АРЭШКА**

Сёння працягласць дарог агульнага карыстання ў Беларусі складае больш чым 88 тысяч кіламетраў, з іх 53,5% – рэспубліканскія дарогі і 46,7% – мясцовыя. Цяпер патрабуюць неадкладнага капітальнага рамонту 57% рэспубліканскіх і 4% мясцовых дарог. Пра гэта паведамілі ў прэс-службе Камітэта па аўтамабільных дарогах пры міністэрстве транспарту і камунікацыяў. Пагаршэнне транспартна-эксплуатацыйнага стану дарог, а таксама невыкананне прадугледжаных аб'ёмаў іх капітальнага і сярэдняга рамонту дарожнікі звязваюць найперш з недастатковым фінансаваннем. Пры гэтым ёсць факты выкарыстання мясцовых дарожных фондаў не па мэтавым прызначэнні. Па рашэннях аблвыканкамаў сродкі фондаў накіраваны на добраўладкаванне гарадскіх вуліцаў у Магілёўскай, Гродзенскай і Гомельскай абласцях, у Мінскай і Магілёўскай абласцях сродкі таксама накіроўваліся на будаўніцтва і рамонт аб'ектаў, не звязаных з утрыманнем і развіццём аўтамабільных дарог. Толькі за першы квартал 2000 года на вышэйуказаныя расходы з мясцовых дарожных фондаў адцягнута 266,5 мільёна рублёў. ■

# Капітальная рэканструкцыя для Брэсцкай крэпасці

**Аляксандр ПАПОВІЧ**

На плошчы мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» распачата самая маштабная капітальная рэканструкцыя за ўсе гады яго існавання. Шэрае бетоннае пакрыццё плошчы на 12 тысячах квадратных метраў будзе заменена на плітку чырвонай афарбоўкі з матэрыялаў высокай трываласці і даўгавечнасці. Пачаць рэканструкцыю дазволілі фінансавыя паступленні з бюджэтаў Беларусі, Расіі, Казахстана, а таксама ўрадаў Масквы і Разанскай вобласці Расіі. Украіна выдаткавала высакаякасны аддзелачны матэрыял з Жытомірскага радовішча граніту. Будаўнічыя працы часова абмяжоўваюць масавыя мерапрыемствы, у тым ліку і бліжэйшыя, запланаваныя на 22 чэрвеня і 3 ліпеня. Але, як паведамілі ў адміністрацыі мемарыяльнага комплексу, экскурсійнае абслугоўванне не перапыняецца, як і доступ да ўсіх экспанатаў і аб'ектаў на тэрыторыі цытадэлі. ■



# Еўракубкі ўзялі старт

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Розыгрыш першага з футбольных клубных турніраў, кубка Інтэртато, адкрыўся ў мінулыя выходныя. Ад Беларусі ў ім удзел прымае магілёўскі «Днепр-Трансмаш», які ў першай гульні на «сваім» полі ў Барысаве (магілёўскае поле непрыдатнае для гульняў такога ўзроўню) абыграў дацкі «Сількеборг» з лікам 2:1. Праз тыдзень магілёўцаў чакае гульня ў адказ. У гэтым годзе, акрамя «Дняпра-Трансмаша», удзел у Еўракубках прымуць: барысаўскі БАТЭ ў Лізе чэмпіёнаў, мазырская «Славія» і «Гомель» – у кубку УЕФА. ■

Для размещения редакции газеты
СНИМЕМ В АРЕНДУ
ИЛИ ПРИМЕМ
ДОЛЕВОЕ УЧАСТИЕ
В СТРОИТЕЛЬСТВЕ ОФИСА
площадью 100-150 м² в центре Минска
т. 210-02-53
Посредников просьба не беспокоить

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# Плануецца ўдзел 900 дэлегатаў

## Кангрэс Дэмакратычных Сілаў

**Алег БЕБЕНІН,**
**Падпісант Хартыі'97**

**Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт не будзе выступаць супраць правядзення 2 ліпеня ў мінскім Палацы культуры тонкасуконнага камбіната мерапрыемства «Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі». Такі адказ атрымаў 15 чэрвеня старшыня аргкамітэта КДС Юры Хадыка ад гарадскіх уладаў.**

На прайшоўшым 17 чэрвеня паседжанні аргкамітэта Кангрэса вызначаныя квоты ўдзельнікаў гэтага мерапрыемства ад асноўных палітычных дэмакратычных партыяў, рухаў, арганізацыяў, прафсаюзаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Беларускі Народны Фронт, Аб'ядная грамадзянская партыя і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) будуць прадстаўленыя на Кангрэсе 80 дэлегатамі кожная. Па 40 чалавек будзе ўдзельнічаць ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Партыі жанчынаў «Надзея» і Партыі працы, а таксама ад Таварыства беларускай мовы. Па 40 чалавек ад кожнай вобласці і Мінска – такая квота дэмакратычных недзяржаўных арганізацыяў. Па 100 чалавек будуць прадстаўляць на Кангрэсе свабодныя прафсаюзы. На Кангрэс запрошаныя таксама больш за 130 вядомых грамадскіх дзеячаў краіны. Вырашана таксама, што дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў будуць аўтаматычна з'яўляцца дэлегатамі Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі. У агульнай колькасці ў Кангрэсе вылучаныя квоты на ўдзел больш за 900 дэлегатаў.

Плануецца, што Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі прыме рэзалюцыю па наступных пытаннях: стаўленне дэмакратычных сілаў Беларусі да магчымых парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, падтрымка Усебеларускага з'езда за незалежнасць, стварэнне рэгіянальных Каардынацыйных радаў дэмакратычных сілаў. На аргкамітэце вырашана запрасіць на Кангрэс дэмакратычных сілаў замежных гасцей – прадстаўнікоў заходніх амбасадаў, КНГ АБСЕ ў Мінску і дэпутатаў парламентаў краінаў-суседзяў Беларусі (Польшчы, Украіны, Расіі, Літвы, Латвіі) і іншых дзяржаваў.

У працы аргкамітэта прынялі ўдзел сустаршыні аргкамітэта Усебеларускага з'езда за незалежнасць Рыгор Барадулін і Анатоль Грыцкевіч. Наступнае паседжанне аргкамітэта пройдзе ў пятніцу, 23 чэрвеня. ■

ЭКАНОМІКА

## Да нас едзе МВФ

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

Заўтра ў Мінск прыязджае місія Міжнароднага валютнага фонду. Візіт працягнецца з 21 чэрвеня па 4 ліпеня. Асноўная ягоная мэта – правядзенне штогадовых кансультацыяў з беларускім кіраўніцтвам па эканамічнай палітыцы і перспектывах.

Эксперты фонду на чале з намеснікам кіраўніка Заходняга аддзела Другога еўрапейскага ўпраўлення МВФ Мартай дэ Кастэла-Бранка будуць вывучаць змяненні ў грашова-крэдытнай і падаткова-бюджэтнай палітыцы на працягу першай паловы 2000 года. Яны дадуць рэкамендацыі на другую палову гэтага года. Прадстаўнікі МВФ таксама павінны абмеркаваць з кіраўніцтвам Беларусі крокі, запланаваныя для лібералізацыі валютнага рынку, і планы рэформаў у такіх сферах, як цэнаўтварэнне, прыватызацыя, сельская гаспадарка, жыллёвае будаўніцтва і сацыяльная абарона.

Чакаецца, што місія правядзе сустрэчы са старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пятром Пракаповічам, міністрам эканомікі Уладзімірам Шымавым, міністрам фінансаў Мікалаем Корбутам, а напрыканцы візіту сустрэнецца з прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным. У кансультацыях, якія пройдуць з 27 па 29 чэрвеня, таксама возьме ўдзел Вілі Кікенс, выканаўчы дырэктар МВФ, які прадстаўляе Беларусь у Савеце Дырэктараў. ■

# Участвовать или нет?

**Оксана ХАРЛАН**

**2 июля Координационный совет политических партий намерен провести очередной Конгресс демократических сил, где предстоит принять непростое решение. Демократическая оппозиция собирается достаточно четко заявить о своем отношении к предстоящим парламентским выборам. Проще говоря, участвовать или не участвовать? От ответа на этот вопрос будет зависеть не только ближайшее будущее нашей страны, но и судьба самой оппозиции.**

## Аргументы «за»

Их не так уж много, и они не настолько убедительны, как может показаться. Можно порассуждать о преимуществах участия оппозиции в законотворчестве, ее более широких возможностях влияния на ситуацию в стране. Но в нынешних политических условиях возникает закономерный вопрос: какое количество демократов просочится сквозь сито чиновничьих преград и фальсификаций в новый парламент? Скорее всего, единицы.

Даже если допустить, что половина вновь избранного законодательного органа будет оппозиционной, каким образом она сможет противостоять неограниченной исполнительной власти? После референдума 1996 года белорусское нацсобрание даже парламентом не назовешь. Это скорее некая канцелярия, почти безропотно визирующая президентские решения. И от количества демократических представителей в креслах этого самого нацсобрания ситуация в Беларуси коренным образом не изменится.

Безусловно, можно полагаться на будущие президентские выборы и на то, что оппозиция даже в таком парламенте сможет поднять вопрос о полномочиях исполнительной власти. Однако на сегодняшний день это выглядит, мягко говоря, нереальным. Ведь это будет все та же Палата представителей, решения которой не пройдут даже через Совет республики.

Самым весомым аргументом может стать то, что отказ демократов от участия в осенней избирательной кампании приведет к непризнанию результатов выборов международным сообществом и толкнет Лукашенко в самые тесные объятия России. Это отдельная тема, и о ней чуть позже.

## Аргументы «против»

Все они плавно вытекают из сказанного выше. Важнейшим условием участия оппозиции в выборах должна стать гарантия их свободного и справедливого характера. Выдвигая идею проведения переговоров с властью, демсилы стремились добиться соблюдения именно этого условия. Фактически проваленные президентские выборы, холостой выстрел 20 июля, некоторая неуверенность в собственных силах и возможностях — все это делало переговорный процесс чуть ли не единственным вариантом мирного выхода из политического кризиса. И на том этапе оппозиция сумела выжать из сложившейся ситуации максимум. В конце концов, была выработана переговорная повестка, включающая принятие демократического избирательного кодекса, доступ к СМИ и создание климата политического доверия.



На сегодняшний день ни один из пунктов этой повестки не выполнен. Избирательный кодекс — мягко говоря, недемократический. Редкие и отрывочные появления оппозиционных лиц на БТ даже с натяжкой нельзя назвать доступом к СМИ. А что касается климата политического доверия, то с ним вообще большой провис. Чигирь осужден, отбывают срок Климов и Кудинов. Нет никакой официальной информации об исчезнувших.

Власть ничего не сделала, чтобы доказать свою приверженность честным демократическим выборам. Смешная игра под названием «широкий общественный диалог» не в счет. Значит, осенняя избирательная кампания со всей скрупулезностью повторит сценарий последнего референдума и местных выборов. Участие в ней только дискредитирует оппозицию и принесет Лукашенко желаемый результат — международное признание.

## Что нужно власти

Как ни парадоксально, но сегодня международное признание Лукашенко просто необходимо. Прежде всего, в качестве определенного противовеса в разговоре с Россией. Еще осенью ему казалось, что дни противников его режима сочтены, — народ их не поддержит, а сами они, мол, ни на что не способны. Недовольство Запада он надеялся с лихвой компенсировать неограниченной политической и особенно экономической поддержкой восточного соседа. Но после удачных оппозиционных акций и особенно смены президента в России положение изменилось.

Путин не Ельцин, благотворительностью по отношению к Беларуси он заниматься не собирается. Уже сейчас цены на газ, поставляемый в нашу страну, увеличились в три раза. С будущего года Россия перестанет принимать к оплате бартер. В обмен на экономическую поддержку российскому руководству нужны вполне конкретные политические соглашения. Значит, возможно, уже нынешней зимой Лукашенко предстоит сделать непростой выбор: стать главой восьмого региона России и еще какое-то время потешить себя властью или попробовать договориться с Западом. Но непризнание международным сообществом результатов белорусских выборов позволит Путину напрямую диктовать нелегитимной власти в Беларуси любые политические условия.

## Решение оппозиции

В сложившихся политических и социально-экономических условиях логичнее всего ожидать от Конгресса демократических сил заявления о том, что власть не стремится создавать условия для проведения свободных выборов, а значит, участие в них оппозиции становится невозможным. Такое решение представляется наиболее важным накануне саммита Европарламента. После знаменитой 304-й резолюции Конгресса США аналогичное решение Европы может существенно повлиять на ситуацию в Беларуси. Велика вероятность того, что определенная европейская позиция толкнет белорусские власти на существенные уступки оппозиции.

Однако в свете недавнего интервью «Резонансу» лидера БСДП принятие Конгрессом демократических сил согласованного решения находится под вопросом. Николай Статкевич почему-то проигнорировал интересы своих политических союзников, заявив, что для социал-демократов вопрос введения смешанной избирательной системы не принципиален, он, мол, актуален лишь для БНФ и ОГП. Более того. Главный белорусский эсдэк фактически признал конституцию 1996 года, назвав это уступкой со стороны оппозиции.

Такое интервью накануне вынесения ему приговора почеловечески можно понять. Однако сказанное Николаем Викторовичем не просто выглядит странно по отношению к другим демократам, но и не приносит пользы БСДП. Тем более что лидер эсдэков представлял это не как свою точку зрения, а как позицию партии.

Хочется верить, что 2 июля Конгресс демсил все-таки заявит о своем неучастии в избирательном фарсе власти. Во всяком случае, до тех пор, пока не будут созданы все условия для свободного волеизъявления всех граждан Беларуси. ■

ЮСТЫЦЫЯ

## ААН інспектуе беларускіх суддзяў

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**«Беларускі прэзідэнт мае занадта многа ўлады з пункту гледжання належнага падзелу ўлады ў краіне паміж выканаўчай, заканадаўчай і судовай галінамі», — так лічыць адмысловы дакладчык ААН па пытаннях незалежнасці суддзяў і адвакатаў Дата Парам Камарасвамі, які днямі наведаў Беларусь.**



У красавіку наступнага года ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў, у яе камісію па правах чалавека будзе прадстаўленая справаздача аб рэальнай сітуацыі з незалежнасцю суддзяў і адвакатаў у Беларусі. Візіт адмысловага дакладчыка ААН быў напрамую звязаны з падрыхтоўкай гэтага дакумента. На працягу 6 дзён свайго візіту Д.П.Камарасвамі сустракаўся з суддзямі, адвакатамі, праваабаронцамі і дзяржаўнымі чыноўнікамі, у тым ліку з намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандрам Абрамовічам, намеснікам старшыні Канстытуцыйнага суда Аляксандрам Марыскіным ды іншымі службовымі асобамі.

Якім жа будзе ўнёсак Д.П.Камарасвамі ў даклад ААН? Мяркуючы па выступе дакладчыка на прэс-канферэнцыі, дастаткова крытычным. Прынцыповыя заўвагі ёсць як да асноўных элементаў судовай сістэмы Беларусі, так і да стасункаў гэтай сістэмы з іншымі галінамі ўлады.

Ужо ў прэамбуле прэс-рэліза Д.П.Камарасвамі адзначыў, што «значная канцэнтрацыя ўлады ў руках прэзідэнта пачалася з 1996 года пасля правядзення скрыўленага рэферэндуму». Гэта, адзначае дакладчык, зыходная кропка далейшых памылак. Па-першае, цяжка лічыць беларускіх суддзяў незалежнымі, паколькі іх прызначае прэзідэнт. Да таго ж, усталяваны пяцігадовы выпрабавальны тэрмін, на працягу якога суддзі могуць быць звольненыя без аніякіх гарантыяў. Пагрозу незалежнасці суддзяў дакладчык бачыць таксама ў нізкім узроўні заробкаў, што скрушае да карумпаванасці.

Асобна спыніўся прадстаўнік ААН на ролі Канстытуцыйнага суда. Ягоная незалежнасць таксама ставіцца пад сумнеў, бо палову складу суда, у тым ліку і старшыню, прызначае прэзідэнт. «Канстытуцыйны суд, гэты самы важны суд... не можа рэальна лічыцца незалежным», – мяркуе дакладчык ААН.

Заўвагі адносна незалежнасці адвакатуры і натарыята таксама вельмі сур'ёзныя. Адзначаецца, што ўсіх адвакатаў прымусілі ўступіць у адвакацкія саюзы, якія знаходзяцца пад кантролем дзяржаўных чыноўнікаў і нават спецслужбаў. Д.П.Камарасвамі не абмінуў таксама фактаў ціску на натарыусаў, таго, што незалежны натарыят у Беларусі з 1997 года фактычна не існуе, а маёмасць тых натарыусаў, якія імкнуліся захаваць незалежнасць, была канфіскаваная.

Дата Парам Камарасвамі прааналізаваў і сістэму дзяржаўных актаў, якія рэгулююць жыццё ў краіне. Было адзначана, што роля дэкрэтаў прэзідэнта не ніжэйшая за ролю законаў, прынятых парламентам. Больш за тое – дэкрэты фактычна важнейшыя за законы, бо дзейнічаюць без зацвярджэння парламентам працяглы час. Судовая сістэма, напрыклад, знаходзіцца пад рашучым уплывам менавіта дэкрэтаў, многія з якіх супярэчаць агульнапрынятым нормам. У якасці такога «ўзору» быў названы дэкрэт А.Лукашэнкі №40 за мінулы год, які дазваляе канфіскоўваць маёмасць да рашэння суда. Гэты дэкрэт дакладчык ААН назваў «парушэннем прынятага ва ўсім свеце прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці».

Напрыканцы прэс-канферэнцыі журналісты спыталі спадара Д.П.Камарасвамі, ці прызнаў хто з беларускіх чыноўнікаў недахопы, пра якія яму стала вядома. «Яны адказвалі, што становіча ставяцца да зменаў, калі ў гэтых зменах ёсць неабходнасць, і гатовыя далей выслухваць усе заўвагі», – адказаў адмысловы дакладчык ААН. Ён паведаміў, што ў выніку ААН выкажа свае рэкамендацыі беларускаму ўраду і дыялог па іх выкананні будзе працягвацца. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Власть перестала скрывать свои замыслы

Сергей ПАРХОМЕНКО

**Взятие в заложники главы «Медиа-Моста» Владимира Гусинского, организованное в минувший вторник околопрезидентской группировкой профессиональных политических интриганов во главе с Александром Волошиным, поставило крупнейшую в России негосударственную информационную корпорацию в крайне тяжелое положение.**



Убедиться, что под видом ареста главы «Медиа-Моста» по вздорному подозрению в преступлении «хозяйственного» толка осуществлен именно захват его в заложники, заставляло множество весьма впечатляющих особенностей первого же этапа операции, развернутой прокуратурой. И то, какие именно формы приняло лишение Владимира Гусинского свободы, — заточение его в Бутырский следственный изолятор, пользующийся славой самой отвратительной из московских тюрем. И то, с какой именно откровенностью следователи демонстрировали и самому арестованному, и его адвокатам свое пренебрежение обязанностью внятно и полно сформулировать суть своих обвинений. И, в конце концов, то, с какой именно легкостью представители высшей государственной власти, не исключая и президента, лицемерили насчет своей неосведомленности о совершающемся произволе и своей непричастности к нему, не умея, да и не желая скрыть при этом как минимум удовлетворенной, а чаще прямо-таки торжествующей улыбки.

Однако наиболее отчетливо проявилась для нас близость этих двух ситуаций — конкретной, «мостовской», и классической, «заложнической», — когда мы со всей ясностью осознали, в чем, собственно, состоит стратегический замысел кремлевских мастеров интриги. Классический терророист всегда очень рассчитывает (и всеми доступными ему методами стремится этого добиться), что противостоящая ему сторона рано или поздно будет готова пожертвовать любыми своими принципами, отступиться от любых своих убеждений, приостановить любые свои действия во имя одной-единственной цели: спасти своего заложника живым. На самом деле власть добивается от нас в точности этого же.

Мы этот мерзкий замысел понимали и понимаем. И когда он возродится снова в какой-нибудь новой форме, мы будем сопротивляться. Но именно в этом понимании и в убеждении, что не сопротивляться нельзя было и пока заложник оставался в камере Бутырской тюрьмы, — природа той тяжести, которую каждый из нас, друзей, партнеров и сотрудников Владимира Гусинского, ощущал на своих плечах...

Новая российская власть не просто молода и неопытна. Она подвержена типичному подростковому «комплексу негативизма». Она с упрямством, упертостью прыщавого пэтэушника отмахивается от «батькиной правды». Но то, к чему она относится с таким презрением, на самом деле представляет собою бесценный, добытый тяжким трудом, а иногда и кровью опыт многих зрелых демократий и одной незрелой — нашей собственной. Этот опыт неопровержимо доказывает, что современная человеческая цивилизация, построенная на принципах уважения личной свободы, устроена слишком тонко и сложно. Что закономерности общественной, экономической и политической жизни пронизаны слишком многочисленными связями, чтобы эти связи можно было, зажмурившись, рвать, как только они начинают хоть чуть-чуть сковывать движения государственного начальника. Новая российская власть хочет казаться самой себе смелой, а на деле ее своеволие слишком легко переходит в самодурство. И если какие-то закономерности демократического хода вещей не представляются ей очевидными в первую же секунду, она в ту же секунду готова признать их несущественными или вовсе несуществующими.

Детям Лубянки, наводнившим теперь кремлевские коридоры, как когда-то кухаркиным детям, не ясна природа связи между устойчивостью демократических свобод в государстве и самим его правом рассчитывать на гармоничное развитие и — может быть, когда-нибудь — процветание. Вкус дрезденского пива, нетрудно поверить, навсегда остался на языке нового российского лидера, но вкуса свободы он за ним не почувствовал: пиво-то было хоть и немецкое, но гэдээровское.

Когда этим людям пытаются напомнить, что свобода — и одна из наиболее важных и развитых форм ее, свобода слова, — является единственной известной человечеству средой развития личности, творчества, предпринимательской инициативы, научного познания, они вяло интересуются: «Кто вам сказал? А как же Чили? А Китай?» Когда в разговоре с ними переходят на вещи, казалось бы, более им понятные и предупреждают, что в закупоренной, запуганной стране мы постепенно сгнием, а снаружи на нас будут смотреть с жалостью и пренебрежением, да просто рук не протянут и денег не дадут, они задирают подбородки: «Это мы еще посмотрим! Афганистан проглотили. Чечню теперь — тоже. Перетопчутся». Мы им мешаем своими вопросами и поучениями. Они хотели бы, чтобы мы все заткнулись и не лезли со своими претензиями и сомнениями.

Если мы не сумеем прервать эти юношеские грезы, полные сладких самовластных видений, переходящих в нервные тоталитарные поллюции, знакомство власти с реальностью может слишком затянуться. Когда-нибудь они там, в Кремле, наглядятся, напробуются досыта, успокоятся и поумнеют. Но жалко ждать. Жизни своей на них — жалко. ■

**«Итоги»**

# Пакараных смерцю ўжо не вернеш

Ірына СТАРЦАВА

**Дзве трэці смяротных прысудаў у ЗША, што былі абскарджаныя ў 1973-1995 гадах, аказаліся несправядлівымі і патрабавалі перагляду справаў. Эксперты лічаць, што юрыдычная сістэма, якая прадугледжвае найвышэйшую меру пакарання, пакутуе на «ўласныя памылкі і недахопы».**

Вывучэнне 4.578 апеляцыяў зрабіла бачнымі шматлікія памылкі і недапрацоўкі, гаворыць аўтар даследавання Джэймс Лібмэн, прафесар юрыспрудэнцыі Калумбійскага універсітэта (ЗША). «Гэта тысячы справаў. Не ў адным, а ў дзесятках штатаў. Існуе вялікая рызыка, што падчас юрыдычнай працэдуры памылка так і не будзе выяўленая».

Як зазначаюць амерыканскія аглядальнікі, гэтае даследаванне стала вядомым якраз у той момант, калі дыскусія пра неабходнасць смяротнага пакарання зноў стала тэмай нацыянальнага маштабу. Сёлета губернатар штата Ілінойс, прадстаўнік Рэспубліканскай партыі Джордж Раян, ужо абвясціў мараторый на смяротнае пакаранне, пасля таго, як 13 «смертнікаў» былі рэабілітаваныя падчас дадатковага расследавання.

Нядаўна тэхаскі губернатар Джордж Буш-малодшы упершыню ў сваёй адміністратыўнай практыцы адклаў на 30 дзён выкананне смяротнага прысуду, дазволіўшы правесці лабараторную праверку ДНК асобы, якая абвінавачвалася ва ўчыненні злачынства. У свой час цяперашні кандыдат у прэзідэнты ад Рэспубліканскай партыі адправіў на смерць 131 асуджанага.

Як паказала апытанне грамадскай думкі, праведзенае ў лютым Інстытутам Гэлапа, 66% амерыканцаў падтрымліваюць смяротнае пакаранне. Раней у 90-я гады гэты паказчык хістаўся паміж 71% і 80%.

Група лекараў, якія ўваходзяць у Амерыканскую асацыяцыю тэрапеўтаў, апелююць да амерыканскай медычнай асацыяцыі – яны патрабуюць увесці агульнанацыянальны мараторый на смяротнае пакаранне. Медыкі лічаць яе недапушчальнай мерай пакарання – да таго часу, пакуль сістэма аналізаў ДНК не стане даступнай для ўсіх штатаў. На іхнюю думку, не выключаная сітуацыя, пры якой невінаватая асоба будзе пакараная смерцю толькі таму, што ў тым ці іншым штаце пакуль не ўведзеная новая судова-медычная тэхналогія. ■

# Нумар аўтамабілю прыдумаю сам




Міхась КАРПОВІЧ

**Уладальнікі транспартных сродкаў ва Украіне змогуць за пэўную суму ўстанаўліваць нумарныя знакі, якія будуць выраблятца на іхнія індывідуальныя замовы. Пра гэта паведаміў першы віцэ-прэм'ер Украіны Юры Еханураў.**

Урадавы камітэт эканамічнага развіцця на сваім паседжанні ў мінулую пятніцу ўзгадніў адпаведны праект пастановы Кабінета міністраў «Аб ўвядзенні нумарных знакаў транспартных сродкаў, што выраблаюцца на індывідуальныя замовы іхніх уладальнікаў».

Як жа ўкраінцам цяпер можна будзе называць сваіх «чатырохколых сяброў»? На гэты конт першы віцэ-прэм'ер выказаўся так: «Можаш – сваё імя, можаш – прозвішча, пасаду. Але плаці... Размова ідзе пра выбітных, вядомых дзяржаўных, грамадскіх дзеячаў і проста матэрыяльна забяспечаных людзей».

Па словах Юрыя Еханурава, праект пастановы падрыхтавала міністэрства ўнутраных справаў Украіны, папярэдне вывучыўшы аналагічную практыку ў іншых краінах свету.

«Такая практыка існуе ў шмат якіх краінах свету, у тым ліку – у Расіі, Эстоніі. У ЗША гэта каштуе 1.000-1.500 долараў», — зазначыў першы намеснік старшыні Кабінета міністраў. Ён удакладніў, што ўкраінскія ўлады пакуль яшчэ не вызначыліся наконт тарыфу на такую экзатычную паслугу. Юрый Еханураў паведаміў таксама, што колькасць знакаў (літараў) на нумары можа быць ад трох да сямі, а сама працэдура іхнай рэгістрацыі не будзе адрозніваца ад звычайнай.

Сапраўды, у Амерыцы можна зарэгістраваць практычна любы нумар – толькі каб не паўтараўся, не ўтрымліваў нецэнзурных словаў і каб не супадаў з нумарамі спецаўтамабіляў – паліцыі, «хуткай дапамогі» і г.д. Калі пра гэта даналіся заможныя расійскія эмігранты, іхняй радасці не было межаў. Яны тут жа пачалі замаўляць нумарныя знакі з сваімі імёнамі, прозвішчамі, а потым дабраліся і да запасаў расійскай нецэнзуршчыны – бо забарона на лаянку датычыць толькі ангельскай мовы. Бедныя амерыканцы нават і не здагадваюцца, як іх «аблайваюць» легкавікі рускіх, якія праязджаюць мімаходзь! Нам вядомыя прыклады такіх «брудных» нумарных знакаў, але мы не можам прывесці гэтыя прыклады, каб не парушыць нормы этыкі.

Што ж датычыць Беларусі, то максімум, да чаго пакуль дадумалася наша дзяржаўная аўтаінспекцыя, – гэта ўвесці з 1 сакавіка гэтага года знакі, дзе замест звычайных дзвюх літараў у нумары фігуруе ўжо тры. Колькасць лічбаў – чатыры – засталася нязменнай. ■

# Борьба за власть в Иране

Бриджит ГРАНВИЛЬ,
глава международных экономических программ Королевского Института международных отношений, Лондон

**Закрытие поддерживающих реформу газет, арест ориентированных на реформу журналистов выглядят как попытки провокации реформаторов, выигравших большинство мест в последнем раунде парламентских выборов в феврале этого года.**

Если реформаторы выйдут на демонстрации и начнутся уличные беспорядки, у сил безопасности появится причина для «затягивания гаек». Во время чрезвычайного положения, которое наверняка за этим последует, приход к власти нового парламента будет отложен.

Осознавая этот факт, лидеры реформации пытаются сдерживать своих последователей. Они уверены в победе, которая к ним со временем все равно придет, поскольку они пользуются поддержкой большинства молодежи и женщин страны. Две трети 65-миллионного населения Ирана – младше 25 лет. Но молодежь в Иране, также как и по всему миру, не отличается большим терпением. И именно в этом – корень беспокойства.

Напряжение нарастает, потому что хотя экономика и еле волочит ноги, никто не предпринимает никаких спасительных мер. Все выступающие за реформу в основном заинтересованы в социальных и политических переменах, обещанных президентом Хатами под рубриками «гражданское общество» и «правление закона».

А следовало бы. Уровень безработицы очень высок особенно среди юных иранцев. Из 1,9 миллиона молодежи, которые сейчас получают высшее образование и вступят на рынок труда в течение следующих пяти лет, у 15,8% нет надежды на трудоустройство. Общая рабочая сила достигнет цифры в 17,7 миллиона к концу текущего пятилетнего плана, в то время как 2,8 миллиона людей, т.е. 15,8 % населения, останутся безработными. Более половины выпускников университетов не могут найти работу и ищут счастье заграницей. Оставшиеся образованные молодые безработные, которые не могут уехать заграницу, – классический ингредиент в общественных беспорядках.



Рост производства, числа рабочих мест является единственным реальным решением этих проблем, но именно он и не наблюдается в царстве государственного контроля и цветущей коррупции. Ожидается, что реальный ВНП этого года вырастет только на 1,5%. Даже у трудоустроенных заработки низкие.

Все иранские фракции обвиняют в сегодняшнем экономическом кризисе разрушительную войну с Ираком 1980–1988 годов и продолжающиеся санкции США. Но реальная причина лежит в инерции государственного контроля. 80% иранской экономики принадлежит государству (как установлено революционной конституцией в ст. 44), цены на основные товары контролируются государством.

Субсидии, вкупе с раздутыми гражданскими трудовыми ресурсами (в стране — свыше 2.000.000 государственных работников), выливаются в хронический бюджетный дефицит, оцененный в 5% ВНП в 1998-1999 годах. Более того, дефицит финансируется посредством печатания денег, что приводит к инфляции, которая достигла 24% в 1998-99 годах и все еще растет.

Либерализация трудового рынка является самой необходимой реформой. Существующее трудовое законодательство сделало невыгодным для работодателей нанимать рабочих, которые получают обязательные премии и щедрые выходные пособия. Другой источник фискального и экономического разлада — полуофициальные торговцы (или базарисы), которые приносят около 10% ВНП и которые на пару с различными бюрократами обладают особыми привилегиями (например, доступ к твердым валютам по особым обменным курсам).

Такие несоответствия должны быть заменены на инвестиции как из репатриированного капитала, так и из зарубежных источников. Но инвестиции невозможны без приватизации, на которую у действующего режима развилась идеологическая аллергия. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

